Цана асобнага нумару 1000 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **10.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 2500 мк., сярод тэксту 2000 м. і на 4 стр. 1500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 7 — Серада, 27-га чэрвеня 1923 г. — Год I.

## „Горш ня будзе!“

У прускім Сойме старшыня рады міністраў, Браўн, выступіў з прамовай, у якой дужа востра нападаў на Польшчу. Паміж іншым, ім былі сказаны словы, што Польшча, „каторая вярнула сваю незалежнасьць дзякуючы крыві, пралітай за яе другімі, дала доказ такой адсутнасьці толеранцыі адносна да другіх нацыянальнасьцей, што, як вынік гэтага, утраціла ўсялякае права жаліцца на іншых. Польшча гвалтам вырвала у меншасьцей ня толькі іх родную мову, але і іх Бацькаўшчыну“.

З прычыны гэтае заявы польскі прадстаўнік у Бэрліне, па загаду міністэрства загранічных спраў з Варшавы, падаў нямецкаму ўраду ноту пратэсту проці крыўднае для Польшчы заявы прадстаўніка прускае ўлады, кажучы паміж іншым:

„Гісторыя паказвае, што Польшча ў працягу вякоў заўсёды адзначалася найвялікшай толеранцыяй, якой і здабыла шчырую прывязьлівасьць да сабе ўсіх сваіх грамадзян. Польскі ўрад астаецца верным гэтым прынцыпам справядлівасьці і найлепшае роўнасьці адносна да ўсіх сваіх грамадзян, незалежна ад іх нацыянальнасьці, веры і палітычных паглядаў, і лічыць сваей першай задачай выпаўненьне сваіх міжнародных абавязкаў“.

Чытаючы гэтыя словы, ня ймеш веры, што яны запраўды напісаны афіцыяльным прадстаўніком Польшчы, ды яшчэ па загаду міністэрства загранічных спраў. Ня ймеш веры, каб пасьля ўсіх прамоваў у Сойме прадстаўнікоў тых нацыянальных меншасьцей, якія гвалту крычаць на ўвесь сьвет з прычыны адносін да іх польскае ўлады, якія кожны дзень публікуюць факты нарушэньня агентамі ўлады канстытуцыі адносна да „інародцаў“, тая-ж самая ўлада мела адвагу гаварыць аб "справядлівасьці і найлепшай роўнасьці“ для нацыянальных меншасьцей! А што будзе, калі ў адказ на польскую ноту нямецкі ўрад прышле соймавыя стэнаграмы з прамовамі паслоў меншасьцей?

Апрача назвычайнае адвагі міністэрства загранічных спраў мы бачым у гэтай ноце жаданьне польскага ўраду, каб Польшчу лічылі „раем“ для меншасьцей. Але пустым славам ніхто ня верыць: трэба фактамі давясьці, што, зачыняючы і забараняючы беларускія школы і каапэратывы, пазбаўляючы наш народ зямлі, на якой ён спрад вякоў працуе, і аддаючы гэту зямлю асаднікам з Польшчы, фабрыкуючы палітычныя працэсы проці беларускіх культурных дзеячоў, арыштоўваючы і вывозячы іх бяз суда за межы іх Бацькаўшчыны, польскі ўрад кіруецца запраўды „прынцыпамі справядлівасьці і найлепшае роўнасьці“....

Можа польскі ўрад, які цяперака ўзяў уладу, будзе апраўдывацца, кажучы, што прыведзеныя факты уціску „інародцаў“ — гэта грахі папярэдніх урадаў? — Праўда, усё, аб чым мы кажам, рабілі папярэднікі пана Вітаса. А што-ж робіць цяперашні ўрад, што ён прынамся дакляруе нацыянальным меншасьцям?

Ды ўсё астаецца па стараму. Беларускіх паслоў бяз згоды сойму — значыць, ламаючы канстытуцыю, — садзяць у вастрогі. Адносіны да беларускіх школаў—такія-ж, як і раней былі. Асаднікаў, што нясуць у нашу вёску адно толькі дэмаралізацыю сялянства, далей садзяць у нас за тыя грошы, якія плоцім і мы ў скарб гаспадарства. А адказны прадстаўнік польскае большасьці ў Сойме, імя якога пакуль-што не называем, пацешыў старшыню беларускага пасольскага клюбу славамі:

„Магу вас заверыць, што горш, чым было, беларусам пры новым урадзе ня будзе!“

**„Горш ня будзе!“** У гэтых двух славах так многа зьместу, і то зьместу, які пярэчыць усім афіцыяльным заявам аб „справядлівасьці і найлепшай роўнасьці“.... У гэтых славах—прызнаньне, што дагэтуль беларусам было бязумоўна блага пад апекай польскае дзяржавы, прызнаньне, што новы ўрад ня зьбіраецца павялічваць старога уціску. Але ў іх нехватае аднаго, што давала-бы маральнае права пісаць ноты, падобныя прыведзенай: нехватае запаведзі паляпшэньня!....

**Лаўрыновіч.**

## Фінансавае становішча Польшчы.

Страшэнны спадак польскай маркі, які выявіўся ў першыя тры тыдні істнаваньня новага ўраду, даў у рукі польскай лявіцы тое самае аружжа, якім карысталася правіца проціў ураду Сікорскага, — але як тая, так і другая, пачарзе склдаючы віну на сваіх праціўнікаў, зусім павярхоўна разглядаюць гэтае пытаньне, выкарыстоўваюць яго ў мэтах дэмагогіі, каб скрыць ад шырокіх працоўных масаў запраўдныя прычыны хворасьці польскіх фінансаў.

Ад пачатку істнаваньня Польскай Рэспублікі мы ўвесь час бачым гэтыя раптоўныя скокі польскай маркі ў ніз, і ў часе ўрадаваньня Сікорскага толькі ў працягу аднаго месяца (12/1 — 13/2) польская марка упала ў сваёй вартасьці ў два разы. Так сама і цяпер наступіў яшчэ большы спадак маркі: у апошнія дні генаральскага ўрадаваньня даляр каштаваў 52.000 м., 16 чэрвеня — 105.000, 18-га — 138.000, а ў дзень закрыцьця афіцыяльных бірж нават каля 200.000!

Пасьля такіх раптоўных скокаў наступае часовае ўспакаеньне, час „направы“ скарбу, латаньне дзюрак у дзяржаўнай гаспадарцы, якія не даюць пажаданых вынікаў і па сутнасьці нічога ня зьменяюць. Бо аснаўная прычына крызысаў — ненармальнасьць міжнародных адносін і барацьба буржуазіі, каб узлажыць увесь цяжар вайны і адбудовы капіталізму на працоўную люднасьць — не падлягае зьмене і рана ці позна выклікаюць новыя катастрофы. Гэтыя катастрофы, па меры ўзросту дарагоўлі і абастрэньня міжнародных адносін, паўтараюцца што раз часьцей з ўсё большай і грознай сілай, безадносна да таго, хто мае ўладу: правіца ці т. зв. „левіца“, бо і тая і другая ёсьць уладаю капіталістаў і мала чым адна ад другой розьняцца.

Усе папярэднія ўрады пацяшалі грамадзянства весткамі аб „направе“ скарбу, падставаю чаго павінна было быць зьмяншэньне расходаў і павялічэньне падаткаў. Але найбольшы расход польскага бюджэту — ваенны — да гэтагу часу ня зьменшаны. Увесь падатак з маемасьці, на які такія вялікія надзеі пакладае п. Грабскі, празначаны выключна на мілітарныя мэты. Адначасна буржуазія і багатыя сяляне ухіляліся ад уплаты падаткаў, і галоўнай крыніцай „даходаў“ было друкаваньне банкнотаў. Дзяржаўны доўг у Р. К. К. Р, узрос да 2.962 мільярдаў марак, што з адначасным друкаваньнем „bonów złotych“ павінна было падгатаваць вялізарны спадак маркі.

Апрача гэтых прычын вялікае значэньне мае і абастрэньне міжнародных адносін. „Мірная“ вайна, якая вядзецца ў Рурскай вобласьці, якая аканчальна зруйнавала гаспадарку Нямеччыны і абясцэніла яе валюту, — моцна адбілася і на Польшчы, якая з гаспадарчага боку моцна зьвязана з Нямеччынай, як з набыўцом, прадаўцом і банкавым пасрэднікам.

Катастрафальны спадак нямецкай маркі выклікаў такі самы спадак мяркі польскай; вынікам гэтага зьяўляецца раптоўны ўзрост цэнаў, чаму, бязумоўна, спрыяе пераход улады ў рукі Хьены і Пяста.

Спадак маркі і ўзрост дарагоўлі для буржуазіі — ня надта страшны. Праўда, гэта крыху утрудніць крэдытовыя стасункі, але за тое можна павялічыць вываз. Крэдыты-ж у маркавай валюце ў Р. К. К. Р. у працягу некулькіх тыдняў упадуць да 1/3 сваей вартасьці. Урэшсьці гэта ёсьць толькі ускарэньне працэсу, які ў сучасных варунках ёсьць абавязковы — аддачы гаспадарчага жыцьця краю ў рукі міжнароднага капіталу і апека яго над клясовымі інтарэсамі буржуазіі. Буржуазія, а асабліва эндэцыя, ясна дае сабе адчот, што без загранічнай дапамогі ня здолае сабе запэўніць трывалага панаваньня.

Найбольшую, беспасрэдную карысьць узрост цэнаў дае буржуазіі абніжэньне работніцкіх зарабаткаў, ня гледзячы на тое, што ўсе тавары падаражэлі фабрыканты ня ўсюды яшчэ выплацілі прыбаўкі за травень, а часам проста адмаўляюць у павялічэньні платы. I гэта робіцца пры адначасным павялічэньні усіх пасрэдных падаткаў і арэнднай платы за памешканьні. Адбываюцца страшнейшыя перагонкі паміж буржуазіяй усіх краёў Эўропы, каму ўдасцца як найбольш абнізіць плату работнікам, хто коштам работніцкай нэндзы найбольш здолае павялічыць магутнасьць свайго гаспадарчага апарату.

Але ў усё ўзрастаючай нэндзы работніцкіх і мала-зямельных сялянскіх масаў істнуе грозная небясьпека і для самай буржуазіі. Дзеля гэтага адсоўваюцца ад улады тыя, якія маюць „левіцовыя сымпатыі“. Дзеля гэтага на парадак дня сойму высоўваюцца такія праекты ўстаў, як устава аб „вольнасьці“ працы. Надходзіць пэрыяд цяжкага змаганьня. Буржуазія зробіць усё, каб дапяць сваей мэты. Цяпер найважнейшым заданьнем для яе было атрымаць уладу, хоць-бы цаною ўмовы з багатымі сялянамі. Заўтра, па меры абастрэньня змаганьня важнейшым заданьнем будзе канцэнтрацыя ўсіх сіл капіталу — ў саюзе з міжнародным капіталам,

На салідарнасьць буржуазіі працоўныя клясы павінны адказаць так сама цесным аб‘яднаньнем сваіх радоў і гатоўнасьцю да барацьбы ў імя супольных лёзунгаў. Буржуазным плянам „направы скарбу“ — праціставіць змаганьне за пералажэньне падатковага цяжару на буржуазныя клясы, за мірную палітыку адносна ўсіх суседзяў. Поўная салідарнась, напружэньне ўсіх сіл і моцная воля чыну — вось што можа абараніць працоўныя клясы ад ўсё болёй грозных вынікаў капіталістычнай гаспадаркі.

## Падтрымовывайце „Наш Сьцяг!“

*Ворагі свабоды шэпчуцца паціху,*

*Чуюць, што падходзіць іх апошні дзень...*

*Страшна ў дзень расплаты: моляцца бяз дыху*

*I, снуюць між намі, нібы мёртвых цень.*

**М. Чарот.**

## Палітычныя падзеі.

### Пабеда нацыянальнае ідэі.

(Ад нашага парыжскага карэспандэнта).

У Бэльгіі узьняўся міністэрскі крызіс. Зьмены ўрадаў у апошнія гады ў-ва ўсіх гаспадарствах не навіна: яны адбываюцца па некалькі разоў у год. Але крызіс у Бэльгіі заслугуе на асаблівую увагу дзеля тае прычыны, якая выклікала яго.

што ў Сойме справе далучэньня акраін гарадзкіх да гораду выступаў пасол ад Вызваленьня Санойца, які сказаў, што гэтая справа ёсьць дужа небасьпечна

для польскіх нацыянальных інтарэсаў, бо далучэньне прыгарадных гмін да такіх гарадоў, як Каламыя ці Станіславаў, павялічыла-б працэнт украінцаў у гарадах.

Гэтыя словы можа з гордасьцяй сказаць і кожны заядлы эндэк.

# З Польскага Сойму.

На апошнім паседжаньні Сойму было разгледжана шмат дробных справаў. Пасол Жулаўскі (P.P.S.) запрапанаваў, каб дзеяльнасьць цэнтральнага ўраду праф. саюзаў была расьцягнута на ўсю тэрыторыю Польскай Рэспублікі, бо дагэтуль законы аб праф. саюзаў не датычалі Малапольшчы і Ўсходніх Крэсаў. Прапазыцыя прынята. Так-сама прынята сьпешнасьць прапазыцыі аб аблічэньні работніцкіх плат на злотыя і выплаце ў польскіх марках па курсу апошняга дня.

### Клюб Ількова зьліквідавауся.

На адным з паседжаньняў камісіі Ількоў (украін. хлібор.) здраднік украінскага народу заявіў, што ён з сваім клюбам далучыўся да клюбу Хіены, у які ўваходзяць усе панскія паслы.

### З Соймавых кулуарау.

Сярод паслоў усіх палітычных коляраў адчуваецца жаданьне скончыць гутарку і раз'ехацца да сваіх родных ачагаў. Дадзела дэпутатам грызьціся паміж сабою і не толькі грызьціся, а чуць не даходзіць да кулачных распраў. Пасьля ўтварэньня правіцова-цэнтровага ўраду стычкі левіцы з правіцай яшчэ больш завастрыліся і перашлі ў надзвычайнае напружаньне пад час абгаворанья „наглага ўнёску“ пэпэсаў аб нападзе на пасла Дабравольскага (P.P.S.) у Жырардаве. Эндэк Добія, здаравенны, як цырковы барэц, ужо засучыў было рукавы, каб біцца. І каб хто небудзь каго выцяў, то ня ведама, што было-б. Сойм мог бы перавярнуцца ў арэну фізычнай барацьбы правіцы і левіцы. Да гэтага, аднак пакуль што яшчэ не дайшло.

Маршалак Сойму Ратай на апошнім паседжаньні Конвэнту Сеньораў знайшоў патрэбным адзначыць, што захаваньне паслоў пад час паседжаньняў Сойму ня можа ня выклікаць з яго боку уваг. Ён лічыць, што непрыстойнае захаваньне паслоў выклікае з боку грамадзянства непаважаньне да самага Сойму, як найвысшай Дзяржаўнай Інстытуцыі. З Соймавай Канцэляріі яму даносяць, што жадаючыя пабыць на паседжаньнях Сойму некаторыя грамадзяне і грамадзянкі пытаюцца, ці ня будзе на паседжаньні якой авантуры і ўзалежніваюць да гэтага свае жаданьне быць прысутным. Такім чынам, Сойм перавяртаецца ў якое-сь месца, куды ходзяць, як на забаву. Маршалак прасіў прысутных зрабіць уплывы ў сваіх клюбах, каб паслы захоўваліся на паседжаньнях больш прыстойна.

На тым-жа паседжаньні Конвэнту Сэньёраў вырашана, што Сойм разойдзецца на лета паміж 1 і 5 ліпнем, але ў канцы ліпня і ў пачатку жніўня ізноў зьбярэцца на кароткую сэсію, а пасьля лета зьбярэцца толькі 15 верасьня.

**М О.**

# З усяе Беларусі.

### Канфэрэнцыя кабет.

(Астрашыцкі-Гарадок, Менск. пав).

28 мая г. г. у Астрашыцкім-Гарадку адбылася канфэрэнцыя вясковых кабет А.-Гарадзецкай воласьці. На канфэрэнцыі прысутнічала каля 30 кабет-гасьцей з блізкіх вёсак, зацікавіўшыхся канфэрэнцыяй, і каля 15 дэлегатак ад усіх сельсаветаў, прычым многа дэлегатак па прычыне палявых работ не зьявілася. Ня гледзячы-ж на гэты ня вельмі вялікі лік кабет, канфэрэнцыя прайшла з вялікім пасьпехам і бадзёрасьцю.

Першым пытаньнем на павестцы дня было пастаўлена пытаньне аб міжнародным становішчы.

Асаблівую-ж увагу канфэрэнцыя аддала дакладу аб народнай асьвеце. Дэлегаткі канфэрэнцыі ў рэзалюцыі па гэтаму дакладу сказалі: Мы ведаем, што разруха, выкліканая вайной шкодзіла народнай асьвеце. Цяпер-жа, калі мы можам спакойна будаваць сваю гаспадарку, мы павінны заклікаць наша сялянства пакіраваць сілы к таму, каб дапамагчы ўладзе будаваць і пашыраць на вёсцы школы. Гэта ёсьць адно з важнейшых запытаньняў і патрэбаў у будаўніцтве беларускай вёскі.

**М.**

## Непарадак.

У нашай Сьвіслацкай гміне, Ваўкавыскага пав. ёсьць асаднік Горстэк з пад Кракава, надзеляны зямлёй з аднаго з тутэйшых панскіх двароў. Ведама, што асаднікі ў нас натарківаюцца, як тыя пугалы сярод варыва, каб трымаць беларускую вёску ў адпаведным настроі, каб прышчапляць ёй польскасьць.

Вось асаднік Горстэк і засеў у нашай аколіцы ды пачаў сваю дзейнасьць. Двое коней, што атрымаў ад скарбу прапіў; дошкі, цэглы і іншае атрыманае на адбудову — прапіў, зямля ляжала аблогам, аж пакуль сяляне не ўпрасілі аддаць у арэнду. Цяпер прадаець хату і так сама пэўна-ж прапьець. Ды ўрэшце што ён прапьець гэта не наша бяда, але шкада тых мільярдаў, якія асыгновываюцца на ганебную справу асадніцтва, тады як нашы беларускія школы ня маюць урадовага падтрыманьня, а падаткі плацім усё роўна.

**Зиога.**

**Лаварышкі**, Віленскага павету.

Наша мястэчка за ўвесь час свайго жыцьця першы раз убачыла вялікае сьвята. На Сьвятоянскі хвэст да нас прыехала з Вільні беларуская трупа і хор. Дзякуючы хлапотам ксяндза пробашча ў яго гумне была зроблена сцэна, на якой нашы сяляне па набажэнстве ў касьцелі ў першы раз убачылі „Птушку Шчасьце“ пьесу Аляхновіча. Недачоты сцэны і залі зґладзілі сваей ігрой артысты. Асабліва вялікую зацікаўленнасьць вызваў балет прытулковых дзяўчатак. За іх ігру публіка наградзіла гучнымі вопляскамі. Пасьля пьескі на сцэну вышла чатыры пары маленькіх танцораў, якія пратанцавалі лявоніху і Юрку. Спэктакль закончыўся пяяньнем беларускіх песьняў пад кіраўніцтвам грам. Стэповіча. Па заканчэньню публіка яшчэ доўга не разыходзілася, а сабраўшыся ў кучкі дзялілася сваімі ўражэньнямі, а некаторыя сьпявалі асобныя куплеты з пьесы. Дай Бог, каб гэткія сьвяты былі часьцей, можа-б тады зьменьшыўся-б у нас лік піўных, а разам з імі паменшыцца можа і пьянства.

**Забрэзьзе**, Валожынскага павету.

Досіць цікавая гісторыя адбылася тут ў часе выбараў ў гмінную Раду. Паны як вядома, зрабілі свой сьпіс і ўжо хацелі яго прагаласаваць, але адзін разумны чалавек узяў ды напісаў спіс, дзе кандыдатамі былі ўсе сяляне і ні аднаго пана. Усе як адзін галасавалі за гэты сьпіс і выбралі Бакштуновіча з вёскі Філіпінят. Гэта быў першы войт які не сароміўся ў справах з панамі і спаганяў з іх усе падаткі як ні ёсьць, а не ўнясе ў час зараз штраф. Не спадабалася гэта паном, а найгарэй пані Бараноўскай якой ён, Бакштуновіч, не пацалаваў раз ў руку. Вось-жа разгневаная пані піша заяву ў Староства і як заўсёды яе просьбы ўважылі і прыслалі загад зьмяніць войта. Гміна ізноў сабралася і пастанавіла пакінуць Бакштуновіча і надалей войтам. Паны яшчэ раз да Староства пішуць і ўжо прыслалі якогасьці „urzędnika“, які пачаў даводзіць, што Бакштуновіч вар'ят, бо яму некалісь конь галаву папсаваў і г. д., але ня гледзячы на гэтакія абгаварываньні нашага войта, сяляне ізноў пацьвярдзілі папярэднія выбары і „urzędnik“ паехаў нісчым. Што далей будзе, няведама, толькі мы пэўныя, што паны ня супакояцца і будуць турбаваць Староства, а Староства нас.

**Р.**

# З Беларускага Жыцьця.

**Уневажаньне мандату.** На паседжаньні Sądowej Izby па выбарных справах Найвысшага Суда дня 8 і 22-га чэрвеня, пасьля разгляду пратэсту і сьпешнай прапазыцыі эндэцкіх клюбаў супроць важнасьці мандату пасла Ул. Каліноўскага, было пастаноўлёна на моцы арт. 5-га 103 утт., 3 і 105 ардынацыі выбараў у Сойм уневажыць мандат нашага пасла.

Ул. Каліноўскі быў выбраны ад беларусаў па Беластоцкаму вокругу.

**Сэнатар Багдановіч**, мандат якога быў апратэстованы, даказаў у Навышэйшым Судзе правідловасьць свайго мандату. Аказываецца, што камісар ураду горада Вільні, які ўнёс пратэст у Найвышэйшы Суд, у часе выбараў сам зацьвердзіў сьпісак кандыдатаў у Сэнат, на якім значыўся і В. Багдановіч. Суд прызнаў пратэст беспадстаўным.

**Чаму** за ўвесь час працы новага Сойму ні адзін беларускі пасол не зрабіў у Вільні ні аднаго справаздаўчага мітынгу?

**Пасол С. Якавюк хадзіў на паклон мітрапаліту Дзянісу**, прапануючы яму сваю ўслужнасьць у царкоўных справах. Як хто пасьцеліцца, так і высьпіцца.

**Беларускае Грамадзянскае Сабраньне выкінута на вуліцу**. 25-га чэрвеня некулькі паліцэйскіх прышлі ў памешканьне Віленскага Беларускага Грамадзянскага Сабраньня і пачалі выкідаць рэчы сэкрэтара Сабраньня, які там жывець, а рэшту рэчаў як сталы і бібліатэкі паліцэйскія запечаталі печаткамі і паставілі варту. Працяг будзе.

**Арышт жаунерау — беларусау.** У Горадні арыштованы жаўнеры беларусы: К. Сьцепура, Ф. Зьверовіч, А. Мазырко, і М. Шырокі, якіх абвінавачываюць у зносінах з урадам Ластоўскага.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад Нічыпурэнкі з Выніпегу—5 дал., ад Кандратовіча з Парыжа—45 фран., ад Карабейнікава—15.000 полскіх мар.

# Беларусы у Латвіі.

### Часопісь „Ластаука“.

У Люцыне вучнямі беларускай гімназіі выдаецца часопісь „Ластаўка“. Вышаў № 1, травень 1923 г. Зьмест: Да Беларускай Моладзі. Я вольны сын неба—верш **Петра Сокала.** Аб песьнях беларускага народу (5 песянь народных Люцынскага павету). Падкурыла—**Лясной Кветкі**. Родная вёска—верш **Якуба Завеі**. Лягенда аб Літоўскай гарэ—**Якуба Завеі**. Хроніка.

### Беларуская школа у Латвіі.

Памоцнік дырэктара школьнага дэпартамэнту міністэрства народнай асьветы Заліт абрэвізаваў Краслаўскую беларускую школу, у якой найшоў вучняў з такімі прозьвішчамі: Айспурс, Бэрзіньш, Парнупе. Паварс, Рэннекс, Грывіньш Вагалс, і Курпнекс. Заліт так перапалохаўся гэтага наплыву ў беларускую школу дзяцей з латышскімі прозьвішчамі, што зрабіў спэцыяльны даклад міністру, каб стрымаць беларусізацыю латышоў у межах Латвіі.

Ці праўда гэта, ці не—невядома, але прынамсі гэтак піша газэта „За свабоду“.

# Усячына.

### Заблутауся.

Польскі міністар Фінансаў Грабскі, абгаварываючы недаўна ў Сойме спадак маркі, казаў:

— Спадак маркі ня мае сувязі з дэпрэцыяцыяй нямецкай валюты, бо Польшча не залежыць ужо гаспадарча ад Нямеччыны.

А 15-га чэрвеня на тым жа самым мейсцы і той самы міністр казаў:

— Апошні спадак польскай валюты спрычыніла гаспадарчая залежнасьць краю ад Нямеччыны.

### Бура, створаная чалавекам.

Адзін амэрыканскі прафэсар зрабіў спробу з электрычнасьцяй, павысіўшы яе энэргію да 2.000.000 вольтаў, выладовываючы яе штучнымі пярунамі. Спроба гэтая яму так удалася, што атрымалася зьявішча дужа падобнае да натуральнай буры. Для гэтай пробы было пабудована асаблівае мястэчка, каля якога прафэсар, пры помачы розных інструмантаў, згусьціў хмары, з якіх пачалі мігцець маланкі і біць пяруны ў вежы мястэчка і вышэйшыя будынкі. Пры гэтым ішоў вялікі дождж, як пры звычайнай буры.

### Праца у сьвяточныя дні.

Міністэрства працы паведаміла Міністэрства Унутраных Спраў, што паліцыя часта дрэнна разумеіць закон з 18/XII—1919 г. аб часе працы ў гандлю і промыслу і кантралюючы працу ў варштатах і прыватных памешканьнях, дамагаюцц каб і тыя рамесьнікі, што працуюць самі, спынялі працу. Закон гэты адносіцца толькі да работнікаў наёмных. Да рамесьнікаў якія працуюць самі без наёмных памошнікаў гэты закон не падходзе.

### Сучаснае.

Прыходзіць селянін у беларускую кнігарню і просіць даць дзеткам пачытаць. Атрымаўшы лемантары і чытанкі селянін шэпча на вуха кнігару: „Скажыце, калі ласка, ці за гэтыя кнігі не арыштуюць часам?“.

### Чаму падаець польская марка.

Першае гэта дзеля таго, што марка вельмі капрызная і ніяк ня хоча ісьці ў гару, а другое дзеля таго, што даляр дужа ганарысты і ня мае ніякай ахвоты падаць у ніз.

# Урадовая абвестка.

Niniejszem Komisarjat Rządu podaje do wiadomości, iż wszyscy popisowi 1902 r., jak również wszyscy ci pop. 1901, 1900 i 1899, którzy zostali sklasyfikowani do kat. „B“ przy poprzednich przeglądach, którzy z jakichkolwiek bądź powodów nie stawili się do przeglądu w oznaczonym terminie (Ogłoszenie Komisarza Rządu z bnia 5. VI. rb.) Winni się zgłosić do przeglądu w dniu 25 i 26 bm. do P. K. U. Wilno (Jakóba Jasińskiego 12) o godz. 8 i pół. r. popisowi zamieszkali w byłych 1, 2, 3 i 4 Komisarjatach Policji m. Wilna w dniu 25 bm., — w pozostałych w dniu 26 bm.

Niestawienie się w oznaczonych dodatkowych terminach bez poważnych przyczyn będzie uważane jako uchylenie się od obowiązku służby wojskowej i pociągnie za sobą skutki karnę. —

**K. Wimbor.**
Komisarz Rządu

Рэдактар-выдавец **Я. Лагіновіч**.

Друкарня **Левін і Сын**, Нямецкая 22.